№ 13 (3958)

17 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІНШУЕМ!

# Ад чайніка да «Хрустальнай Паўлінкі»

*Дзесяць фактаў з жыцця народнага артыста СССР Генадзя Аўсяннікава*



Да 80-годдзя свайго найстарэйшага акцёра Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы праводзіць Юбілейны тыдзень, на працягу якога народны артыст Аўсяннікаў заняты ва ўсіх сямі спектаклях. І гэта ў восемдзясят гадоў! Ну, а мы вырашылі ўспомніць некалькі фактаў з жыцця любімага акцёра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, узнагароджанага многімі ордэнамі і медалямі, сярод якіх і ордэн Францыска Скарыны, і прыз «Хрустальная Паўлінка», і прэмія прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне». Яго яркі талент выхаваў не адно пакаленне беларусаў.

**1.**

Народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў атрымаў гэта званне апошнім, у адным спісе з Алай Пугачовай. Пасля яго гэта званне ўжо не прысуджалі нікому.

**2.**

У Купалаўскім тэатры патрыярха сцэны часта клічуць Дзядзькам. Ён чалавек сціплы і неамбітны. Свой будучы тыпаж адчуў яшчэ ў 22 гады – з маладосці давяралі дзядоў іграць.

**3.**

Да аўтамабіляў абыякавы: машын не купляў. На садовым участку не корпаецца. Кулінарных здольнасцяў не мае.

**4.**

У тэатр прыйшоў у 1957 годзе разам з Віктарам Тарасавым, Галінай Талкачовай, Марыяй Захарэвіч пасля заканчэння Тэатральна-мастацкага інстытута (курс легендарнага педагога прафесара Канстанціна Саннікава). Але яшчэ студэнтам з'яўляўся на сцэне Купалаўскага тэатра ў ролі кіпячага чайніка ў «Паўлінцы» ў масавай сцэне.

**5.**

Самы знакаміты персанаж Генадзя Аўсяннікава – Цярэшка Калабок у «Трыбунале» Андрэя Макаёнка. Ён яго іграў 20 гадоў і выйшаў у гэтай ролі на сцэну 650 разоў, выпіў 1650 гранёных шклянак гарэлкі (вады), змяніў дзве жонкі і шэсць сыноў. А ў цэлым за гады службы ў Купалаўскім тэатры сыграў 80 роляў беларускага і замежнага рэпертуару.

**6.**

На радыё іграў... крокі Леніна. У акцёра Малчанава, які агучваў правадыра, абутак быў на мяккай падэшве, а па тэксце значылася: «Ленін імкліва падыходзіць да трыбуны...». Крокі адлюстроўваў Аўсяннікаў. А Павел Сцяпанавіч Малчанаў следам прамаўляў тэкст.

**7.**

Аднойчы ў Маскве акцёра на некалькі гадзін пасялілі ў гасцініцы «Нацыяналь» – 500 долараў у суткі за нумар. Акцёр пакутаваў: такая безгаспадарчасць! Маўляў, мог бы да вячэрняга цягніка і з чамаданчыкам у руках пахадзіць, а сэканомленыя грошы на добрую справу пусціць.

**8.**

Дысцыплінаваны настолькі, што выходзіць да гледачоў нават тады, калі зубы баляць. І – сцэна лечыць зубны боль.

**9.**

Пасля спектакля «Вечар», у якім артыст выконвае ролю Васіля, Генадзю Сцяпанавічу звычайна тэлефануюць і пішуць гледачы: «Дзякуй! Мы ў той жа вечар бацькам пабеглі тэлефанаваць».

**10.**

Любімы афарызм акцёра Аўсяннікава, якім ён кіруецца ў творчасці: «Заўсёды трэба пакідаць зазор для сумневу».

**Падрыхтавала**
**Алена МАЛОЧКА.**

ПРИГОВОР

## Получил "пятерочку"

*Суд Московского района Минска вынес приговор по коррупционному делу* ***Константина Ремишевского****.*

Ректор Государственного учреждения образования «Институт культуры Беларуси» приговорен к 5 годам лишения свободы с конфискацией имущества.

Константину Ремишевскому инкриминировалось получение взяток за предоставление в пользование помещений вверенного ему учреждения образования без документального оформления.

Приговор в законную силу пока не вступил. По предварительным данным, и защитник, и сам обвиняемый намерены его обжаловать.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## *Кожная беларуская сям'я ўжо вінная па 16 тысяч долараў*

*За 2014 год замежныя інвестары ўклалі ў беларускую эканоміку 15 мільярдаў 100 мільёнаў долараў.*

Менавіта такую лічбу называе Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі. Дзяржаўныя статыстыкі сведчаць: 82,1% ад гэтай сумы – так званыя «даўгавыя інструменты».

– Гэта азначае, што болей за чатыры пятых ад атрыманых грошай – звычайныя пазыкі, – патлумачыў кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанід Заіка. – Цяпер мы маем дзесьці каля 28 мільярдаў долараў пазык суб'ектаў гаспадарання. Прадпрыемствы бралі крэдыты. І таму ў рэальнасці гэта не замежныя інвестыцыі, а звычайныя даўгі.

А яшчэ ж грошы пазычае ўрад. І сумарна мы ўжо пазычылі 40 мільярдаў долараў. То бок на кожную сям'ю – па 16 тысяч. Калі кажаш гэта людзям, яны раз'юшваюцца і крычаць: "Я нічога нікому не вінны!" А я кажу: "Не, Вася, ты і твая сям'я вінныя 16 тысяч долараў". Людзі проста не разумеюць, што прадпрыемствы набіраюць крэдыты для гандлю, для абароту.

«ГОРЯЧАЯ ТОЧКА»

# Станет ли перемирие миром?

В ночь с субботы на воскресенье президент Украины Петр Порошенко отдал приказ о прекращении огня. Аналогичные приказы отдали руководители так называемых ЛНР и ДНР.

Фотокорреспондент Илья Варламов сделал эти фото туманным утром первого дня перемирия и пояснил: «На полпути к Дебальцево украинские военные отдыхают, ожидая дальнейших приказов руководства. В перемирие никто не верит. Подтверждением этому являются одиночные артиллерийские удары, которые слышны справа и слева от трассы». Обе стороны – и украинская, и самопровозглашенные республики – заявляют, что на отдельных участках перемирие не соблюдается. Но в целом международные эксперты подтверждают, что стороны пока «стараются соблюдать режим тишины».



## Кучма рассказал, как Захарченко и Плотницкий едва не сорвали подписание минских договоренностей

Второй президент Украины Леонид Кучма рассказал, что в Минске контактная группа должна была подписать документ вместе с главарями боевиков Александром Захарченко и Игорем Плотницким, а потом передать его «нормандской четверке», но сепаратисты едва не сорвали весь процесс переговоров, а президенты уже собирались разъехаться.

*«Контактная группа должна была вместе с Александром Захарченко и Игорем Плотницким подписать этот документ, передать его четырем президентам, они должны были выйти к прессе, благословить этот документ и сказать: «Ребята, давайте жить дружно». Но когда мы сели за стол подписывать документ, Плотницкий и Захарченко сказали, что они ничего подписывать не будут, их не устраивает договор»,* – рассказал в интервью каналу «Интер» Кучма.

По его словам, боевики начали с того, что якобы наши военные в «котле» в Дебальцево.

*«Предлагали записать, что военные должны сдать оружие. Это была немая сцена. Четверка чуть не разъехалась»,* – сказал он.

По словам Кучмы, после перерыва участники контактной группы внесли в документ единую поправку, «хотя замечаний со стороны Донбасса было много». *«Единственное изменение – вместо 8 часов 14 числа перемирие должно было наступить в полночь 15 числа. Это единственное, что изменилось»,* – отметил Кучма.

РЕЗОНАНС

## Партия «Справедливый мир» осудила «оппозиционные комплексы» некоторых политиков

В связи с подписанием в Минске 12 февраля 2015 года главами Германии, Франции, России и Украины комплекса мер по урегулированию конфликта на Донбассе Бюро ЦК Белорусской партии левых «Справедливый мир» сделало специальное заявление.

По мнению Партии «Справедливый мир», минские соглашения от 12 февраля 2015 года являются *«сложным, но оправданным компромиссом между всеми сторонами, так или иначе вовлеченными в конфликт на Донбассе». «Индикатором того, что дело обстоит именно так, стала истеричная критика со стороны украинских и российских национал-экстремистов, которой подверглись президенты Украины и России, поставившие свои подписи под минскими соглашениями»,* – сказано в документе.

Партия «Справедливый мир» считает совершенно неуместными спекуляции, раздающиеся из уст отдельных белорусских политиков, позиционирующих себя демократами, по поводу «дивидендов», полученных в результате встречи в Минске глав Германии, Франции, России и Украины белорусским президентом.

*«Партия осуждает подобные «оппозиционные комплексы» и, находясь в многолетней и принципиальной оппозиции к внутриполитическому курсу Лукашенко, считает тем не менее необходимым заявить о поддержке усилий официального Минска по урегулированию вооруженного конфликта на Донбассе. Для нашей партии первостепенными являются не персональные приобретения или потери каких-либо политиков, а восстановление мира и стабильности в регионе, находящемся у непосредственных границ Беларуси»,* – сказано в документе.

СІТУАЦЫЯ

# Б'юць у званы...

*Учора ў Мінску прайшоў форум прадпрымальнікаў, у якім бралі ўдзел і прадстаўнікі ўлады.*



Форум пад назвай «Мэты і задачы для малога бізнесу Беларусі» быў скліканы РГА «Перспектыва» для абмеркавання праблем у сферы малога бізнесу.

Нагадаем, 1 ліпеня 2014 года набыў моц указ прэзідэнта №222, прыняты ў падтрымку тэхрэгламенту Мытнага саюза (МС) «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці». Указ абавязаў ІП мець сертыфікаты адпаведнасці згодна з тэхрэгламентам МС на ўсе тавары, што ўвозяцца ў Беларусь. Рэшткі тавараў, увезеных да ўваходжання ўказа ў сілу, дазволена прадаваць па старых правілах да 1 сакавіка 2015 года.

ІП заявілі, што не змогуць працаваць па новых правілах, бо атрымаць усе неабходныя дакументы ў пастаўшчыкоў (у асноўным расійскіх) практычна немагчыма, паведаміла агенцтва БелаПАН.

Напрыканцы лістапада намеснік міністра гандлю **Ірына Наркевіч** заявіла, што тэрмін распродажу рэшткаў тавараў можа быць працягнуты – нібыта адпаведныя папраўкі рыхтуюцца.

Але ўлады вырашылі не ўносіць змяненняў ва ўказ. Як патлумачыў напрыканцы мінулага тыдня міністр гандлю **Валянцін Чаканаў**, *«інакш працяг тэрмінаў будзе доўжыцца бясконца».* А намеснік міністра эканомікі **Ірына Касцевіч**, сустракаючыся з прадстаўнікамі «Перспектывы», заявіла, што ўсе павінны навучыцца жыць і працаваць у новых умовах.

Учора ў зале гасцініцы "Беларусь", што называецца, яблыку не было дзе ўпасці, а некаторыя прадпрымальнікі нават не змаглі туды патрапіць з-за адсутнасці месцаў. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі Мінэканомікі, Мінгандлю, Міністэрства па падатках і зборах, а таксама Брэсцкага, Віцебскага і Гродзенскага аблвыканкамаў.

Людзі расказвалі пра свае праблемы – высокія стаўкі арэнднай платы, падаткі, немагчымасць гандляваць без сертыфікатаў....

Напрыклад, прадстаўніца полацкіх прадпрымальнікаў **Вольга Шчарстабітава** заявіла, што іпэшнікі Полацка могуць з сакавіка перастаць плаціць падаткі і арэндную плату за гандлёвыя плошчы, бо арэнда за апошні месяц падаражэла больш як на 50%.

**Сяргей Філіпаў** з Бабруйска ўпэўнены, што бізнес пакінуць каля 70 працэнтаў дробных прадпрымальнікаў.

*«Я рабіў апытанку сярод прадпрымальнікаў. І 70 працэнтаў з іх збіраюцца сыходзіць па дзвюх прычынах – высокая арэнда гандлёвых кропак і тое, што ў многіх прадпрымальнікаў засталіся 90% рэшткаў тавару, які рэалізаваць за два тыдні (да 1 сакавіка 2015 года, калі будзе забаронена працаваць без дакументаў) немагчыма. Людзі збяднелі, у іх няма грошай...»* – прыводзіць "Еўрарадыё" словы Філіпава.

Тым не менш прадстаўніца Мінгандлю заявіла: падаўжаць тэрмін рэалізацыі тавараў без сертыфікатаў дзяржава не будзе.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МЕРКАВАННЕ

# Не вытрываць, не выжыць

***У гэтым годзе колькасць іпэшнікаў знізіцца ў сем разоў, прагназуе дырэктар аналітычнага цэнтра Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Анатоль Змітровіч.***

– Перад іпэшнікамі зараз стаяць вельмі сур'ёзныя выпрабаванні. Калі яшчэ ў лістападзе мінулага года мы думалі, што працягненне тэрмінаў рэалізацыі рэшткаў несертыфікаваных тавараў пасля 1 сакавіка – гэта выратаванне для прадпрымальнікаў, то зараз бачым, што нават калі тэрміны і працягнуць, то ўсяго толькі працягнуць агульную агонію малога бізнесу. Таму што падзенне пакупніцкага попыту не дазваляе прадпрымальнікам выйсці ў плюс з улікам таго, што неабходна плаціць падаткі і арэнду. Трэба адзначыць, што ў Беларусі той, хто плаціць адзіны падатак, мае самы вялікі падатковы цяжар. Хто так плаціць?! Падатковая нагрузка дасягае 35 працэнтаў! І калі зараз працягнуць тэрміны продажу рэшткаў, то не ўсе іпэшнікі змогуць працаваць далей. Напрыклад, на 100–150 мільёнаў рэшткаў трэба будзе заплаціць 80–100 мільёнаў падатку. Які сэнс працаваць "пад нуль"? Таму трэба дамагацца таго, каб рэшткі дазволілі рэалізаваць без усялякіх дадатковых падаткаў.

**– Можа, тады прадпрымальнікі наогул знікнуць як клас?**

– Указ №222 "Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідульнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі" нагадвае мне лабісцкую схему ліквідацыі малога бізнесу. Ён карэнным чынам змяніў умовы працы іпэшнікаў. Атрымліваецца, што ўлады вызваляюць нішу, якую займалі ІП у рынычным гандлі, для нейкага буйнога неайчыннага бізнесу.

**– Кажуць, што беларускія прадпрымальнікі могуць прызвычаіцца да любых умоў працы, бо "травілі" іх ужо не раз. Ваша меркаванне?**

– На гэты раз не прызвычаяцца, бо ёсць мінімальны набор нейкіх нарматыўных актаў, каб прадпрымальнік змог большменш спакойна працаваць. Але зараз узровень абсурду ў законатворчай базе для вядзення бізнесу ў некалькі разоў перавышае узровень здаровага сэнсу, у межах якога можа працаваць малы бізнес. Раней вырашалі праблемы прадпрымальнікаў у межах эканамічнай вобласці і можна было даказаць чыноўнікам, што тое і тое мае выгаду для дзяржавы. Калі эканамічныя доказы перасталі слухаць, прымянялі палітычныя метады – мітынгі, дэманстрацыі, страйкі. Але зараз вырашэнне пытання прадпрымальнікаў наогул знаходзіцца ў нейкай незразумелай вобласці. Немагчыма нешта прагназаваць. Прадпрымальнікі не могуць планаваць сваю працу, людзі не бачаць будучыні. Выхад адзін – закрывацца. А значыць, дзяржава сама адмаўляецца ад 1 трыльёна 124 мільярдаў рублёў, якія прынеслі б іпэшнікі ў бюджэт краіны ў выглядзе падаткаў. Паводле маёй інфармацыі, у гэтым годзе колькасць прадпрымальнікаў знізіцца ў сем разоў – з 70 тысяч да 10 тысяч. Вельмі сумная лічба!

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Нельга! І ўсё тут!»



У мінулую суботу натоўп ля мясных прылаўкаў на сталічным Камароўскім рынку можна было назіраць з самага ранку. Яго ўтварылі тры чаргі, пераважна з людзей сталага ўзросту. Але былі і маладыя, і сярэдняга веку... Прадавалі свініну па 60 тысяч рублёў за кілаграм. Стаяць за ёй трэба было не менш за дзве гадзіны...

Звяртаю ўвагу на жанчыну ў норкавым футры і карычневым берэце. Бачна, што футра яшчэ з тых, "дэфіцытных" часоў. Падчас размовы высветліла, што прыгожую жанчыну клічуць Аленай Віктараўнай. Яна кажа:

*– Хачу набыць нейкі больш-менш нармальны кавалак, каб падсмажыць адразу. Калі дастанецца карбанад, дык я яго на некалькі кавалкаў падзялю і ў маразілку. Сама асабліва мяса не ем – пенсія невялікая, жыву адна. Вось калі ўнучка прыходзіць, дык я тады нешта ўжо больш-менш прыстойнае гатую. А так... То бульбу з кефірам, то яйкі, то кашу. Пра рыбу нам, пенсіянерам, можна толькі марыць. Паглядзіце хаця б, колькі сёння каштуе звычайны селядзец...*

Тут жа ў чарзе стаіць высокі хлопец у акулярах. Адразу папярэдзіў мяне:

*– Вы толькі, калі ласка, мяне не здымайце. Не хачу, каб мая фізіяномія была ў прэсе. Я студэнт. Дарэчы, я і не ведаў пра гэтую акцыю. Прыйшоў набыць гародніну ды вось убачыў, што прадаюць мяса па нізкіх коштах. Стаю ўжо больш за гадзіну.*

Пенсіянер, які назваўся Сяргеем Пятровічам, сказаў, што хоча набыць смажаніну:

*– Мне мой сусед пазваніў і сказаў пра гэтую акцыю. Я за каляску і на рынак. Мне ж тут 10 хвілін хады. У асноўным мы з жонкай набываем курыцу. Асабліва нічога не можам сабе дазволіць. Мне 82 гады, а жонцы – 79. Але нічога, трымаемся пакуль...*

Хутка высветлілася, што размаўляць з людзьмі на Камароўцы – крамола. Да мяне падышла прадстаўніца адміністрацыі рынку і запыталася: *"Дзе ў вас дазвол рабіць здымкі і размаўляць з людзьмі?! Пайшлі ў адміністрацыю, а то я зараз ахову выклікаю".*

Што ж, пайшлі. Намеснікам дырэктара рынку аказаўся **Мікалай БУСЛО,** знаёмы журналістам і праваабаронцам яшчэ з тых часоў, калі ён працаваў кіраўніком РУУС Савецкага раёна сталіцы. Не раз журналісты скардзіліся на яго за грубыя паводзіны, якія, як высветлілася, мала змяніліся і пасля таго, як спадар Бусло памяняў месца работы. Па крайняй меры так мне падалося.

*– Здымаць на рынку я вам забараняю! І з людзьмі размаўляць таксама. Напішыце паперу, мы разгледзім і потым дадзім адказ.*

***– Але як вы можаце забараніць мне размаўляць з людзьмі? На якой падставе? Чаму нельга фатаграфаваць на рынку? У чым сакрэтнасць? У тым, што людзі стаяць за танным мясам?***

*– Я вам ужо ўсё сказаў. Нельга, і ўсё тут!*

**Любоў ЛУНЁВА.**

З НАГОДЫ

# Баскёры экстра-класа



Сярод аматараў бокса нярэдка ўзнікае пытанне: хто ж усё-такі быў лепшым баксёрам сучаснасці?

Некаторыя называюць **Мухамеда Алі, Джорджа Формана ці Майка Тайсана**... Хтосьці аддае перавагу іншым. Але, на мой погляд, лепшымі з лепшых можна было б назваць двух алімпійскіх чэмпіёнаў – расіяніна **Валерыя Папенчанку** і нашага земляка **Вячаслава Яноўскага** *(на фота).* Гэта на самай справе баксёры экстра-класа!

Абодвух я неаднаразова бачыў на рынгу, іх баі заўсёды вылучаліся высокай тэхнікай, неверагоднай рэакцыяй і воляй да перамогі. Адным словам, яны былі ўзорам класічнага бокса! Як вядома, на кожнай Алімпіядзе самы тэхнічны баксёр узнагароджваецца Кубкам Вэла Баркера, дык вось у Токіа яго ўладальнікам стаў менавіта Валерый Папенчанка.

У Яноўскага і Папенчанкі ў спорце было шмат агульнага, а вось лёсы склаліся па-рознаму... У хуткім часе пасля таго, як Валерый павесіў пальчаткі на цвік, ён трагічна загінуў. Гэта адбылося 15 лютага 1975 года. Было яму ўсяго 37 гадоў.

Валерый Яноўскі – заслужаны майстар спорту, чэмпіён Алімпійскіх гульняў, уладальнік Кубка свету, кавалер ордэна "Знак Пашаны".

Вось некалькі момантаў з яго жыцця...

Першым, да каго ў родным Віцебску прыйшоў пасля вяртання на радзіму з Сеула Вячаслаў, былі рабочыя завода "Мегом", дзе і пачыналася працоўная біяграфія алімпійскага чэмпіёна. Гэта хлопец ад станка. Відаць, і трэніраваўся ён, як сапраўдны працаўнік!

Вячаслаў заўсёды адкрыты і прамы. Гаворыць тое, што думае, а таму да яго было халаднаватае стаўленне з боку асобных "спартыўных дзеячаў". Ці не таму ён і пакінуў пасаду старшыні Федэрацыі бокса і сёння працуе не на радзіме, а ў Расіі?

На жаль, шмат беларускіх спартсменаў і трэнераў, якія ў свой час аддавалі краіне сваё здароўе, зараз больш патрэбны на чужыне, а не дома. Упэўнены, што справа тут нават не ў матэрыяльных прапановах з-за мяжы, а ў адсутнасці неабходнай увагі на радзіме. Але гэта ўжо тэма для асобнай размовы...

**Юрый ЯСІНСКІ,**
**ветэран спорту, заслужаны трэнер Беларусі.**



# Чемпионат Беларуси по футболу-2015. Календарь игр

***На прошлой неделе состоялась жеребьевка чемпионата Беларуси по футболу-2015. Предлагаем вашему вниманию календарь.***



**СУПЕРКУБОК**
*14 марта*
Шахтер (Солигорск) – БАТЭ (Борисов)
**КУБОК-2014/15**
**1/4 финала. Первые матчи**
*21–22 марта*
Гранит (Микашевичи) – Шахтер
Белшина (Бобруйск) – Динамо (Брест)
Динамо (Минск) – Витебск
БАТЭ – Неман (Гродно)
**КУБОК-2014/15**
**1/4 финала. Ответные матчи**
*4–5 апреля*
Шахтер – Гранит
Динамо (Бр) – Белшина
Витебск – Динамо (Мн)
Неман – БАТЭ
**ТУР 1**
*10–11 апреля*
Гомель – Белшина
Неман – Динамо (Мн)
БАТЭ – Славия (Мозырь)
Шахтер – Слуцк
Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Динамо (Бр)
Минск – Нафтан (Новополоцк)
Гранит – Витебск
**КУБОК-2014/15**
*15 апреля*
1/2 финала. Первые матчи
**ТУР 2**
*18–19 апреля*
Белшина – Витебск
Нафтан – Гранит
Динамо (Бр) – Минск
Слуцк – Торпедо-БелАЗ
Славия – Шахтер
Динамо (Мн) – БАТЭ
Гомель – Неман
**ТУР 3**
*25–26 апреля*
Неман – Белшина
БАТЭ – Гомель
Шахтер – Динамо (Мн)
Торпедо-БелАЗ – Славия
Минск – Слуцк
Гранит – Динамо (Бр)
Витебск – Нафтан
**КУБОК-2014/15**
*29 апреля*
1/2 финала. Ответные матчи
**ТУР 4**
*3–4 мая*
Белшина – Нафтан
Динамо (Бр) – Витебск
Слуцк – Гранит
Славия – Минск
Динамо (Мн) – Торпедо-БелАЗ
Гомель – Шахтер
Неман – БАТЭ
**ТУР 5**
*9–10 мая*
БАТЭ – Белшина
Шахтер – Неман
Торпедо-БелАЗ – Гомель
Минск – Динамо (Мн)
Гранит – Славия
Витебск – Слуцк
Нафтан – Динамо (Бр)
**ТУР 6**
*15–17 мая*
Белшина – Динамо (Бр)
Слуцк – Нафтан
Славия – Витебск
Динамо (Мн) – Гранит
Гомель – Минск
Неман – Торпедо-БелАЗ
БАТЭ – Шахтер
**ТУР 7**
*23 мая*
Шахтер – Белшина
Торпедо-БелАЗ – БАТЭ
Минск – Неман
Гранит – Гомель
Витебск – Динамо (Мн)
Нафтан – Славия
Динамо (Бр) – Слуцк
**КУБОК-2014/15**
*24 мая*
Финал
**ТУР 8**
*29–31 мая*
Белшина – Слуцк
Славия – Динамо (Бр)
Динамо (Мн) – Нафтан
Гомель – Витебск
Неман – Гранит
БАТЭ – Минск
Шахтер – Торпедо-БелАЗ
**ТУР 9**
*4–5 июня*
Торпедо-БелАЗ – Белшина
Минск – Шахтер
Гранит – БАТЭ
Витебск – Неман
Нафтан – Гомель
Динамо (Бр) – Динамо (Мн)
Слуцк – Славия
**ТУР 10**
*17–18 июня*
Белшина – Славия
Динамо (Мн) – Слуцк
Гомель – Динамо (Бр)
Неман – Нафтан
БАТЭ – Витебск
Шахтер – Гранит
Торпедо-БелАЗ – Минск
**ТУР 11**
*21–22 июня*
Минск – Белшина
Гранит – Торпедо-БелАЗ
Витебск – Шахтер
Нафтан – БАТЭ
Динамо (Бр) – Неман
Слуцк – Гомель
Славия – Динамо (Мн)
**ТУР 12**
*26–28 июня*
Белшина – Динамо (Мн)
Гомель – Славия
Неман – Слуцк
БАТЭ – Динамо (Бр)
Шахтер – Нафтан
Торпедо-БелАЗ – Витебск
Минск – Гранит
**ТУР 13**
*4–5 июля*
Гранит – Белшина
Витебск – Минск
Нафтан – Торпедо-БелАЗ
Динамо (Бр) – Шахтер
Слуцк – БАТЭ
Славия – Неман
Динамо (Мн) – Гомель
**ТУР 14**
*11–12 июля*
Белшина – Гомель
Динамо (Мн) – Неман
Славия – БАТЭ
Слуцк – Шахтер
Динамо (Бр) – Торпедо-БелАЗ
Нафтан – Минск
Витебск – Гранит
**КУБОК-2015/16**
*18–19 июля*
1/16 финала. Первые матчи
**КУБОК-2015/16**
*1–2 августа*
1/16 финала. Ответные матчи
**ТУР 15**
*8–10 августа*
Витебск – Белшина
Гранит – Нафтан
Минск – Динамо (Бр)
Торпедо-БелАЗ – Слуцк
Шахтер – Славия
БАТЭ – Динамо (Мн)
Неман – Гомель
**ТУР 16**
*14–16 августа*
Белшина – Неман
Гомель – БАТЭ
Динамо (Мн) – Шахтер
Славия – Торпедо-БелАЗ
Слуцк – Минск
Динамо (Бр) – Гранит
Нафтан – Витебск
**ТУР 17**
*22–23 августа*
Нафтан – Белшина
Витебск – Динамо (Бр)
Гранит – Слуцк
Минск – Славия
Торпедо-БелАЗ – Динамо (Мн)
Шахтер – Гомель
БАТЭ – Неман
**ТУР 18**
*29–30 августа*
Белшина – БАТЭ
Неман – Шахтер
Гомель – Торпедо-БелАЗ
Динамо (Мн) – Минск
Славия – Гранит
Слуцк – Витебск
Динамо (Бр) – Нафтан
**ТУР 19**
*11–13 сентября*
Динамо (Бр) – Белшина
Нафтан – Слуцк
Витебск – Славия
Гранит – Динамо (Мн)
Минск – Гомель
Торпедо-БелАЗ – Неман
Шахтер – БАТЭ
**ТУР 20**
*19–20 сентября*
Белшина – Шахтер
БАТЭ – Торпедо-БелАЗ
Неман – Минск
Гомель – Гранит
Динамо (Мн) – Витебск
Славия – Нафтан
Слуцк – Динамо (Бр)
**РЕЗЕРВНЫЙ ДЕНЬ**
*23 сентября*
**ТУР 21**
*26–27 сентября*
Слуцк – Белшина
Динамо (Бр) – Славия
Нафтан – Динамо (Мн)
Витебск – Гомель
Гранит – Неман
Минск – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Шахтер
**ТУР 22**
*3–4 октября*
Белшина – Торпедо-БелАЗ
Шахтер – Минск
БАТЭ – Гранит
Неман – Витебск
Гомель – Нафтан
Динамо (Мн) – Динамо (Бр)
Славия – Слуцк
**ТУР 23**
*16–18 октября*
Славия – Белшина
Слуцк – Динамо (Мн)
Динамо (Бр) – Гомель
Нафтан – Неман
Витебск – БАТЭ
Гранит – Шахтер
Минск – Торпедо-БелАЗ
**ТУР 24**
*24–25 октября*
Белшина – Минск
Торпедо-БелАЗ – Гранит
Шахтер – Витебск
БАТЭ – Нафтан
Неман – Динамо (Бр)
Гомель – Слуцк
Динамо (Мн) – Славия
**РЕЗЕРВНЫЙ ДЕНЬ**
*28 октября*
**ТУР 25**
*31 октября*
Динамо (Мн) – Белшина
Славия – Гомель
Слуцк – Неман
Динамо (Бр) – БАТЭ
Нафтан – Шахтер
Витебск – Торпедо-БелАЗ
Гранит – Минск
**ТУР 26**
*8 ноября*
Белшина – Гранит
Минск – Витебск
Торпедо-БелАЗ – Нафтан
Шахтер – Динамо (Бр)
БАТЭ – Слуцк
Неман – Славия
Гомель – Динамо (Мн)
**КУБОК-2015/16**
*21 ноября*
1/8 финала. Первые матчи
**КУБОК-2015/16**
*29 ноября*
1/8 финала. Ответные матчи

** В календарь еще могут быть внесены коррективы в рамках конкретных туров, учитывая пожелания клубов и телевидения.*

АСОБА




# Хлопец з Бярозаўскага ДК...

На 6 лютага ў сталічным клубе "Піраты" быў запланаваны канцэрт **Зміцера ВАЙЦЮШКЕВІЧА** і яго гурта WZ-orkiestra. Але 29 студзеня, пасля продажу большай часткі квіткоў, клуб паведаміў, што не можа выканаць абавязацельствы па правядзенні мерапрыемства. Маўляў, ён мусіць прыпыніць дзейнасць на нявызначаны тэрмін з-за адключэння электрычнасці (маецца запазычанасць па аплаце).

І такое з Вайцюшкевічам здараецца не першы раз на працягу апошніх гадоў, што дае падставу сцвярджаць, што музыкант як "неблаганадзейны" аказаўся ў так званых "чорных спісах"...

**– Зміцер, а ці быў у вас увогуле досвед клубных канцэртаў?**

– Быў. Праўда, даўно, годзе ў 2004-м, у клубе "Гудвін". Выступленне мы анансавалі менавіта як "вялікі клубны канцэрт". Былі выступленні ў клубах у Швецыі, Польшчы ў самых розных фарматах. Але сапраўды так склалася, што ў мяне часцей "сядзячыя" канцэрты.

**– У клубе ясна – атмасфера нязмушаная і нефармальная. А гэтыя халодныя мінскія канцэртныя залы з пафаснымі жырандолямі, драўлянай падлогай ды агульнай атмасферай саўка не скоўваюць вас як выканаўцу?**

– Зусім не. Я ж хлопец з Бярозаўскага дома культуры. Больш за тое, хачу працягваць гэтую традыцыю і рабіць у такіх месцах адпаведныя канцэрты. З савецкімі песнямі. Канцэрт-прысвячэнне Марку Бернэсу і Леаніду Уцёсаву, напрыклад. Гэтым ніхто не займаецца, а ў мяне ёсць такія магчымасці і музыканты, якія па-свойму могуць перадаць наша ўспрыманне такой творчасці. Без здзеку, вядома ж. Наогул, залаў у маім жыцці было вельмі шмат. У 1991 годзе я прадаваў цацкі для ялінкі на прыступках Палаца культуры і навукі ў Варшаве, а праз 10 гадоў я там ужо спяваў.

**– Можаце назваць сябе прафесіяналам?**

– Прафесіяналізм прыходзіць з гадамі. Магу сказаць, што дзякуючы чатырохгадовай забароне на мае выступленні я стаў яшчэ больш прафесійным музыкантам. Быў час падумаць над усім, паразважаць над сваім месцам у гэтай прасторы, а таксама актыўна паездзіць па іншых краінах з канцэртамі, часам бясплатнымі ці за невялікі ганарар. Цяпер мне падабаецца слова "прафесійны".

**– А з мінулага нічога не хочацца выкрасліць і забыць?**

– У жыццёвым плане, натуральна, ёсць такія моманты, якія хацелася б забыць. Але гэта мая асабістая гісторыя, буду сам перад панам Богам за ўсё разлічвацца. У творчым плане таксама, мабыць, нешта трэба было б выкрасліць. Як казаў Шаінскі, ёсць песні нармальныя, а ёсць барахло. З цягам часу разумееш, што такое гэтае "барахло"...

**– 10 гадоў таму выйшаў, напэўна, самы дзіўны ваш альбом – "MW" на вершы Уладзіміра Маякоўскага. Як цяпер ставіцеся да таго эксперыменту?**

– Харошы альбом, адзін з маіх найлепшых. Цяпер я разумею, што гэта нармальна, калі нейкаму альбому банальна не шанцуе. А тады я быў ідэалістам. Мне здавалася: зраблю зараз альбом на вершы Маякоўскага – і стану вядомым у інтэлігенцкім коле рускіх аўтараў, якія выконваюць спяваную паэзію. Плюс таго, што я заглыбіўся ў біяграфію Маякоўскага, – я стаў такім беларускім маякоўсказнаўцам.

**– Але публіка не прыняла, і разлік не апраўдаўся, так?**

– І не толькі з ім. З Ваячкам таксама. Шэсць гадоў працы, мне здавалася, што праца можа быць запатрабаваная... Але гэта мае ўнутраныя ўніверсітэты, і свае плюсы як маральныя, так і фінансавыя я ўсё ж атрымаў. Маякоўскага я паказваў і ў Маскве, і ў Берліне, і ў Парыжы. Інтарэс да Ваячка ёсць у Польшчы...

**– Назавяце паэтаў, якіх вы яшчэ не ахапілі, але якія дужа вас цікавяць?**

– Анатоль Сыс. Наогул хочацца зрабіць альбом на вершы маладых сучасных беларускіх паэтаў. Таксама хочацца звярнуцца да Стральцова. І да Хадановіча, хоць з ім і шмат зроблена разам. Цяпер ён пераклаў на беларускую мову шэсць песень Яраміра Нагавіцы. Але хацелася б папрацаваць больш шчыльна і з яго асабістай паэзіяй.

**– Чаму ўсур'ёз не заняліся акцёрскай кар'ерай?**

– Мне калісьці вельмі хацелася стаць акцёрам. Я сустрэўся з Мікалаем Халезіным і з Уладзімірам Шчэрбанем. Кажу: вазьміце мяне ў свой тэатр, у вас так цікава атрымліваецца, я магу быць вам карысным. І Шчэрбань кажа: я цябе ўяўляю голым на сцэне, а замест фігавага лістка – дранік. Я тады трошкі не зразумеў фішачкі, а цяпер разумею, што варта папрацаваць дзеля таго, каб быць акцёрам. Кожная справа вымагае часу, а часу на ўсё не хапае.

**– Ці часта бывае такое, што ваша бачанне паэзіі не супадае з бачаннем аўтара?**

– Мы з Някляевым дагэтуль спрачаемся на гэты конт. Ён піша верш, і ў ім сядзіць унутраны кампазітар, які прапаноўвае пад яго словы мелодыю. Уладзімір Пракопавіч, калі паказвае новы верш, часам яго напявае. Але гэтая мелодыя можа не супасці з маёй, і мы ваюем. З Камоцкім і Бураўкіным не было канфліктаў на гэты конт. З кожным з аўтараў былі асаблівыя адносіны. І ўсе яны для мяне маюць вялікую каштоўнасць.

**– Што вас натхняе на новыя ідэі ва ўмовах поўнага адключэння ад радыё- і тэлеэфіраў, праблем з канцэртамі ў сваёй краіне ды іншых перашкод?**

– Адсутнасць эфіраў на радыё кампенсуецца эфірамі на польскім "Радыё Рацыя", рэсурс у іх немалы. Усведамляю таксама, што прысутнасць на тэлебачанні і колькасць гэтых эфіраў зусім не гарантуюць таго, што ты збярэш поўную залу, а на мае канцэрты людзі збіраюцца і без гэтых эфіраў. Таму гэта аніяк не ўплывае на мой настрой. А натхняюць – зямелька і сонейка, якое свеціць (ці засвеціць) у акенца. У мяне была магчымасць вучыцца ў Піцеры ці паступіць у Акадэмію музыкі ў Варшаве ды стаць добрым кларнетыстам, але недзе вырашылі, што Вайцюшкевіч мусіць займацца беларускай справай. І мне гэта падабаецца. Я адчуваю сябе на сваім месцы.

**Пытанні задаваў**
**Сяргей БУДКІН.**

КРЫЖАВАНКА

# "Наша ж мова – цудоўная, спеўная"




**Па гарызанталі:** 1."Мова мая, наш чысты ... нявінны,//З табой не ўстыд нам выйсці да людзей" – з верша Л.Геніюш "Мова мая". 3."Моўны ... – ды гэта ж Айчына" – з верша І.Багдановіч "Моўны ...". 6."Пявуча мая мова –//Душы маёй струна!//Бываюць мовы блізкія,//А родная ..." – з верша Л.Забэлы "Родная мова". 12."Родная мова, цудоўная мова!//Ты нашых думак уток і ..." – з верша Ул.Дубоўкі "Родная мова, цудоўная мова!". 13.Другі ... – звод законаў ВКЛ на беларускай мове, які быў прыняты ў 1566 годзе і дзейнічаў на тэрыторыі сучасных Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны, працай камісіі па яго распрацоўцы кіраваў канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны; сёлета, 4 лютага, 500 год з дня яго нараджэння. 15."Вось ... сумеў засланіць сабой сам//Годнасць роднага слова" – з верша Д.Бічэль-Загнетавай "Словам Скарыны". 18.Сімвал дзяржавы, вайсковай часці. 19.Бланк для запаўнення якімі-небудзь звесткамі. 20.У некаторых мусульманскіх краінах – намеснік духоўнай асобы. 23.Горад, райцэнтр на Міншчыне, сталіца края беларускіх пісьменнікаў. 24.Рака, левы прыток Прыпяці. 27.Краіна свету. 28."... пачаў пець той мовай убогай,//Якой пагарджаюць горка, нядбала" – з верша Я.Купалы "Я не паэта". 31."Мяккі ... лятае пухам,//І канца яму няма" – з верша Я.Коласа "Зіма". 35."Абакралі духоўна суседзі,//Апаганілі наш ... –//І не ведаюць прашчураў дзеці,//І марнее без мовы народ" – з верша М.Маляўкі "Адраджэнне". 37."Спяваюць на чужыя ...//Адзіныя ў свеце беларусы" – з верша А.Балуценкі "Мова вернецца". 39.Асоба, якой даручана апека над кім-небудзь. 40."У песнях жа родны ...,//Родныя словы//Жылі, і жывуць, і жыць будуць заўсёды" – з верша Я.Купалы "Родныя песні". 41.Колькасць экзэмпляраў друкаванага выдання. 42."Наша ж ... – цудоўная, спеўная,//Умее спелым калоссем шумець" – з верша Н.Арсенневай "Жыве Беларусь".

**Па вертыкалі:** 2."Без крывінкі матчынае слова://Кнігаўку чужы дзярэ ..." – з верша В.Гардзея "Матчына слова". 4."І з усіх песняроў мне мілей і бліжэй//Роднай мовы пясняр – неўміручы ..." – з верша Н.Гілевіча "Родная мова". 5.Спецыяліст па перадачы і прыёме паведамленняў па радыё. 7.Тоўстая тканіна. 8."...!" – каманда сабакам на паляванні. 9."Мая спадчына, гонар і мараў ...,//Мілагучная, шчырая, добрая мова" – з верша М.Ляшчуна "Родная мова". 10.Сукупнасць чаго-небудзь. 11.Натуральны падатак у Рускай дзяржаве. 14. ... поўны, а вочы пустыя (прык.). 16."Наша мова – ... весні,//Аксаміт жаўруковае песні" – з верша Я.Золака "Наша мова". 17."Наша родная мова – чароўная песня.//Беларуская мова – ..., адчай" – з верша К.Цыбульскага "Наша родная мова". 21."Даруй мне, мова, за ...,//Даруй, што сын з дачкой русачаць" – з верша Я.Мальца "Судны час". 22."Уратуем мову – ... свайго краю" – верш Т.Дзям'янавай. 25.Уступная частка літаратурнага твора. 26."Я спяваў пра жыта і пра жаўранкаў,//Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,//А ... – вялікадзяржаўнікаў,//Што разбэсцілі вялікі мой народ" – з верша П.Панчанкі "Беларуская мова". 29.Які прызначаны для язды. 30. ... вочы адчыняе (прык.). 32.Партыя для аднаго голасу. 33.Адрывісты гук, стук. 34.Была ў сабакі ..., ды ад дажджу згарэла (прык.). 36.Стальная пласцінка для галення. 38.Орган размнажэння ў грыбоў.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

**Адказы:**

**Па гарызанталі:** 1.Твар. 3.Скарб. 6.Адна. 12.Аснова. 13.Статут. 15.Скарына. 18.Сцяг. 19.Карта. 20.Наіб. 23.Узда. 24.Лань. 27.Азія. 28.Песні. 31.Снег. 35.Радавод. 37.Галасы. 39.Апякун. 40.Край. 41.Тыраж. 42.Мова.

**Па вертыкалі:** 2.Арол. 4.Купала. 5.Радыст. 7.Драп. 8."Ату!" 9.Калыска. 10.Маса. 11Ясак. 14 Трыбух. 16.Бярозавік. 17.Натхненне. 21.Грахі. 22.Голас. 25.Пралог. 26.Сягоння. 29.Ездавы. 30.Навука. 32.Арыя. 33.Удар. 34.Хата. 36.Лязо. 38.Аск.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15013

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 16.02.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25360 экз. Заказ №514.**